**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 41 (862) 13 кастрычніка 2016 года. Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by





У Глыбокім, 5 кастрычніка, пры шашы Полацк-Вільня, у месцы перасячэння яе вуліцай Садовай, закладзены новы парк – дуброва. У пасадцы маладых дубкоў браў удзел і кіраўнік раёна Алег Моргат. *Фота Леаніда Юрыка.*



ISSN 2077-8023
9 772077 802009 16041

## Гарадоцкі раён

# Да самастойнай працы

■ Станіслаў Раманчук.

**У выпадку пагаршэння стану здароўя кожны з нас міжволі звяртаецца за дапамогай да медыкаў.**

Значныя выдаткі, амаль 1 трлн. старых рублёў патрацілі ў Прыдзвінні за апошнія пяць гадоў на ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы звыш ста бальніц і паліклінік, куды амаль столькі сродкаў пайшло на закуп сучаснага медабсталявання. Аднак для глыбінкі застаецца яшчэ праблема - недахоп кваліфікаваных кадраў у розных сферах. З падобнымі цяжкасцямі сутыкаюцца і ў Гарадоцкім раёне, размешчаным да таго ж зусім блізка ад абласнога цэнтра і па суседстве з Расіяй. Таму з радасцю тут сустрэлі прыезд на працу ў рэгіён напрыканцы лета адразу 29 маладых спецыялістаў медыкаў. Да работы прыступілі 10 выпускнікоў медуніверсітэтаў, маладых урачоў, сярод якіх адзін з дзесяці правізараў, размеркаваных у розныя медустановы вобласці. Задаволены на месцах таксама таму, што атрымаліяшчэ19фельдшараў і медыцынскіх сясцёр з сярэдне-спецыяльнай адукацыяй. Прыемна, што сярод навічкоў аказалася шмат мясцовых ураджэнцаў. Шэраг з іх прадоўжаць добрыя справы сваіх бацькоў у белых халатах, могуць з'явіцца сапраўдныя медыцынскія дынастыі ў гэтай высакароднай справе. Як і ў іншых месцах, у раёне старающца дапамагчы маладым спецыялістам вырашыць жыллёвае пытанне, прызначаюць вопытных куратараў, ствараюць умовы для далейшага росту ў прафесіі. Дарэчы, сёлета на Віцебшчыне атрымалі вельмі значнае папаўненне медыкаў, усяго 372 урачы і яшчэ 293 іх будучыя калегі прыбылі для праходжання інтэрнатуры на працягу года.

## Верхнядзвінскі раён

# Далучыцца да святынь і прыроды

■ Чэслаў Якубовіч.

**Кожны беларускі рэгіён мае значны турысцкі патэнцыял, асабліва шмат памятных і проста прыгожых мясцін менавіта на Віцебшчыне.**

Старающца паўсюдна цяпер, каб да іх як мага болей прыязджала гасцей і турыстаў. Арыгінальна падышлі да гэтага ў Верхнядзвінску, дзе галоўны архітэктар раёна прыдумаў незвычайны ход. У самым цэнтры горада, засёды ажыўленым, па суседстве з абноўленай аўтастанцыяй нядаўна ўстанавілі незвычайны і вельмі прыгожы ўказальнік. Яго вырабілі на лазерным станку спецыялісты мясцовага райаграсервіса, ювелірна правялі зварачныя работы. У выніку з'явіўся твор сапраўднага мастацтва з 10 таблічкамі накірункаў і адлегласцей да асноўных мясцовых славутасцей, якімі ганарыцца Верхнядзвінскі раён. Любы жадаючы адсюль можа прайсці толькі лічаныя сотні метраў і ўбачыць у райцэнтры дамы гістарычнай забудовы з новым музеем, аднаўленыя старажытныя царкву і касцёл. Да іншых трэба ўжо ехаць дзясяткі км, але потым ужо кожны залюбуецца незвычайным харастром неагатычнай царквы Успення св. Багародзіцы ў Сар'і і веліччу Троіцкага касцёла ў Росіцы, дзе разыгралася знакамітая трагедыя 1943 года. Турысты ўбачаць, куды ехаць, каб пабываць у музеі даследчыка Сібіры, вучонагагеолага Івана Чэрскага. На Латгальскім узвышшы, дзе цесна пераплецены беларуская, руская і латышская культуры цікава паглядзець на цэлы каскад азёр, лясоў і балот у заказніку "Асвейскі". Указальнік падкажа, куды ехаць да цуда прыроды Юсціянаўскага дуба і да іншых мясцовых прыгожых мясцін, дзе ў адной з сядзіб стварыў свой знакаміты твор "Недоросль" пісьменнік Дзяніс Фанвізін.

## Пастаўскі раён

# Зноў на вышыні

■ Кастусь Александровіч

**У самых масавых айчынных спаборніцтвах сярод дзяцей і падлеткаў па футболе, турніры "Скураны мяч" удзельнічалі сёлета амаль тры з паловай тысячы каманд розных узростаў.**

Упершыню ў гэтым годзе спаборнічалі і хлопчыкі малодшай узроставай групы 9-10 гадоў, а гонар Віцебскай вобласці дастойна прадставілі адразу тры каманды з аднаго горада Паставы. Трэці год запар у сярэдняй групе (узрост удзельнікаў 11-12 гадоў) у фінале, які завяршыўся ў Слоніме, гулялі юныя пастаўчане, якія спачатку былі чэмпіёнамі, а потым праз год саступілі па серыі пенальці аднагодкам з Брэстчыны і заваявалі сярэбраныя медалі. На гэты раз выхаванцаў трэнера Аляксандра Тарасевіча ў рашаючым матчы перамаглі мінчане, а пастаўчаніна Іллю Баранава прызналі лепшым абаронцам турніру. Упершыню сёлета паспяхова згуляла пастаўская каманда, з якой плённа працуе вядомы футбольны спецыяліст Васіль Грантоўскі, у старэйшай узроставай групе ў Горках. Ёй, праўда, крыху не пашчасціла, бо ў падгрупе будучы чэмпіён, каманда "Юнацтва" (Драгічын), у самай канцоўцы змог звесці матч унічыю 2:2, што адкрыла палешукам шлях да "золата". Пастаўчане прывезлі дамоў бронзавыя медалі і адначасова іх прызналі лепшымі ў Беларусі ў спаборніцтвах па тэхніцы футбола і фізпадрыхтоўцы. Прыз самага тэхнічнага іграка "Скуранога мяча" і грашовую прэмію прывёз дамоў пастаўчанін Дзяніс Казлоў, а яго таварыш Багдан Трошка быў прызнаны лепшым варатаром турніру. Наймаладзейшыя пастаўчане (узрост 9-10 гадоў), з якімі працуе трэнер Руслан Зелянкевіч, на гэтым турніры ў Пружанах сталі ў краіне шостымі, але яны саступілі ў сваёй групе пераможцу і бронзаваму прызёру.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 13.10.16 | | | | Пятніца 14.10.16 | | | | Субота 15.10.16 | | | | Нядзеля 16.10.16 | | | | Пан. 17.09. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +1 | +2 | +2 | +1 | +1 | +1 | +4 | +3 | +2 | +3 | +5 | +4 | +4 | +4 | +6 | +3 | +2 | +1 | +4 |
| Ціск | 759 | 758 | 758 | 757 | 758 | 759 | 759 | 759 | 760 | 760 | 760 | 759 | 761 | 762 | 763 | 764 | 766 | 767 | 767 |
| Вецер м/сек | 3 Ю-В | 2 С-В | 3 С-В | 3 С-В | 1 В | 1 В | 2 В | 1 С-В | 1 Ю-В | 1 В | 2 В | 1 С-В | 1 Ю-В | 3 Ю-В | 1 В | 2 Ю | 4 Ю | 4 Ю | 3 Ю |
| Вільготнасць | 93 | 90 | 75 | 88 | 89 | 87 | 72 | 94 | 97 | 93 | 76 | 96 | 97 | 94 | 68 | 90 | 92 | 90 | 56 |

# Аб самым надзённым

## БЕЗ ЭКАНАМІЧНЫХ І ПАЛІТЫЧНЫХ РЭФОРМ У БЕЛАРУСІ НЯМА ПЕРСПЕКТЫЎ ДЛЯ РАЗВІЦЦЯ І ПАЛЯПШЭННЯ ЖЫЦЦЯ ЛЮДЗЕЙ




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Нам міжволі прыходзіцца спадзявацца, што МВФ пойдзе Беларусі насустрач, выдзеліць крэдыт, калі дамовімся. У такім выпадку, у 2017 годзе наша краіна атрымае толькі першы транш у суме 1 млрд. долараў, аднак іналета толькі па ранейшых займах трэба вярнуць 3 мільярды.**

У пачатку восені стала вядома аб рашэнні выканаўчага савета МВФ выдзеліць суседняй Украіне чарговы транш у памеры 1 млрд. долараў, што выклікала раздражненне Крамля. У сваю чаргу ўкраінцы пагадзіліся паскорыць правядзенне далейшых эканамічных рэформ, у тым ліку барацьбу з карупцыяй. Для нашай краіны аказанне замежнай фінансавай пазыкі – таксама актуальная праблема, паколькі беларускі бок хацеў бы атрымаць ад Міжнароднага валютнага фонду новы крэдыт у суме 3 млрд. USD. Такая пазыка даволі выгадная, бо бярэцца на 10 гадоў пад 2,28 % гадавых. Перамовы на гэту тэму вяліся яшчэ летась, але дагэтуль да поўнага кансенсусу Беларусь са сваімі замежнымі крэдыторамі не дайшла.

Праўда, напрыканцы верасня ў Мінск зноў прыбыла місія гэтай уплывовай міжнароднай арганізацыі для абмеркавання з беларускім урадам новай крэдытнай праграмы. Кіраўнік групы спецыялістаў МВФ Пітэр Долман адразу раскрыў карты і расказаў, што прыехаў з рэкамендацыямі для беларусаў паскорыць наспеўшыя рэформы ў айчыннай эканоміцы. Замежныя эканамісты не хавалі сваіх ацэнак, што і наступны год будзе нялёгкім для нас з-за існуючых дысбалансаў сярод многіх беларускіх дзяржпрадпрыемстваў і іншых неспрыяльных знешніх фактараў. На сціплы эканамічны рост, па ацэнках МВФ, Беларусь можа разлічваць толькі ў 2018 годзе.

Сапраўды, у нас працягваецца стагнацыя эканомікі, а краіна вымушана жыць у доўг, каб рэзка не знізіць узровень жыцця насельніцтва. Як вядома, сёлета знешні дзяржаўны доўг Беларусі вырас яшчэ амаль на 1 млрд. долараў (на 6,8 %) і ў жніўні дасягнуў 13,3 млрд. USD. Самі ж перамовы беларускіх улад з місіяй МВФ дагэтуль праходзілі няпроста. З-за спаду ў айчыннай эканоміцы, як вядома, сталі расці праблемныя активы нашых банкаў, а таму атрымаць новую крэдытную праграму Захаду жыццёва неабходна. Тым больш, што адносіны з асноўным гандлёвым партнёрам Расіяй зараз няпростыя. Не вытрымаў нават і А. Лукашэнка, прыгразіў Пуціну магчымым зніжэннем узроўню інтэграцыі, бо непаразуменні з цэнамі на газ, зніжэнне паставак расійскай нафты, выкрунтасы з беларускімі прадуктамі харчавання надакучылі - "это уже через край!".

Цяпер жа пацяпленне адносін Беларусі з вядучымі дзяржавамі Захаду можа станоўча паўплываць на зыход новых перамоў па крэдыту. Аднак рашаючае значэнне будзе мець гатоўнасць беларускага ўрада пачаць праводзіць глыбокія эканамічныя рэформы. Пакуль жа 24 дырэктары з выканаўчага савета МВФ, якія прадстаўляюць 189 дзяржаў свету – членаў арганізацыі, падтрымалі меры ўрада і Нацбанка Беларусі сёлета па стабілізацыі макраэканамічнай сітуацыі. Якія б ні былі вынікі чарговых перамоў у Мінску, але для кожнага з нас важна ведаць, што на Захадзе нам акажуць дапамогу толькі пры згодзе беларускіх улад пачаць рынкавыя рэформы, дэмакратызацыю грамадска-палітычнага жыцця.

На практыцы гэта азначае, што Беларусь павінна жыць па сродках, прытрымліваюцца эканоміі бюджэтных расходаў, паступова зніжаць дзярждоўг, прадаўжаць падтрымку найбольш неабароненых слаёў насельніцтва, каб паступова прыйсці да канца 2018 года да поўнай аплаты затрат у сферы камунальных паслуг і праезду ў грамадскім транспарце. Што цікава, як нашы перамовы з МВФ па крэдыту, так і расійска-беларускія газавыя перамовы працягваюцца даўно, яшчэ з мінулага года, а вось ніякіх станоўчых для нас рашэнняў пакуль не прымалася. Больш танны газ беларусы не атрымалі, хоць на нядаўняй Паралімпіядзе ў Бразіліі пранеслі ў знак салідарнасці расійскі сцяг, а нам яшчэ зноў урэзалі пастаўкі нафты ( з-за гэтага ў 4-м квартале беларускі дзяржбюджэт недаатрымае 200 млн. долараў).

Сакрэт такой скупасці Крамля просты: у суседзяў заканчваюцца запасы на чорны дзень, пра гэта іх прэм'ер Д. Мядзведзеў даходліва прызнаўся старым у Крыме, дзе параіў крымчанам і астатнім расіянам толькі трымацца, бо грошай у казне няма. У такой сітуацыі наша "братэрская інтэграцыя", членства ў праслаўтым ЕАЭС прыносяць адны толькі праблемы. Нам міжволі прыходзіцца спадзявацца, што МВФ пойдзе Беларусі насустрач, выдзеліць крэдыт, калі дамовімся. У такім выпадку, у 2017 годзе наша краіна атрымае толькі першы транш у суме 1 млрд. долараў, аднак і налета толькі па ранейшых займах трэба вярнуць 3 мільярды. Як ні круці, а будзе ўсім нялёгка, асабліва калі нашы ўлады вырашаць пайсці насустрач сваім заходнім партнёрам, пачнуць ажыццяўляць прыватызацыю і іншыя меры па паступовым пераходзе ад адміністрацыйна-каманднай да рынкавай эканомікі.

## Дзень за днём

**З пачатку года ВУП Беларусі зменшыўся на 3 % да леташняга ўзроўню. У наступным, 2017 годзе, бюджэтная падтрымка АПК скароціцца на 25 %. Міжнародны валютны фонд рэкамендаваў уладам Беларусі паступова павысіць пенсійны ўзрост да 65 гадоў. Расія ўвяла розныя абмежаванні для 42 айчынных мясамалочных прадпрыемстваў. Беларусь падрыхтавалася да новага ацяпляльнага сезона. Міністэрства сувязі дазволіла выкарыстоўваць Wi-Fi ў грамадскім транспарце. У беларускіх магазінах рэзка падаражэла грэчка.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя.** Пасля авіяўдару войск рэжыму і РФ па гуманітарным канвоі ААН і гібелі 20 яго супрацоўнікаў ЗША спынілі супрацоўніцтва з рускімі па сірыйскім канфлікце.

**ЗША.** У апошняй прамове на Генасамблеі ААН прэзідэнт Б. Абама асудзіў Расію за парушэнні міжнароднага права, спробы аднавіць сваю славу прымусовым шляхам.

**Расія.** Мінэканомразвіцця РФ падрыхтавала 3 сцэнарыі прагнозу развіцця краіны на 2017-2019 гады, што стала шокам для Пуціна, бо захаваецца стагнацыя расійскай эканомікі.

**Германія.** Спецслужбы краіны пачалі следства аб серыі хітрых камп'ютарных атак, хутчэй усяго з Расіі, супраць дэпутатаў Бундэстагу і вядучых нямецкіх партый.

**Расія.** Для прадухілення магчымага перавароту ў Крамлі альбо за яго межамі Пуцін услед за войскамі нацгвардыі задумаў стварыць Міністэрства дзяржбяспекі, як пры Сталіне.

**Англія.** Перамога Трампа, як заявіла газета Times, ідэальна задаволіць Пуціна, яго партыя выбары выйграла, але пры крайне малой яўцы і з дапамогай укіду бюлетнёў у рэгіёнах.

**КНДР.** Улады краіны прыгразілі знішчыць амерыканскую авіябазу на востраве Гуам у Ціхім акіяне, калі іх бамбардзіроўшчыкі не спыняць палёты над суседняй Карэяй.

**Украіна.** Офіс главара "ДНР" А. Захарчанкі ў Данецку сталі ўзмоцнена ахоўваць пасля забойства кілерам у падмаскоўным рэстаране яго беглага сябра-сепаратыста Я. Жыліна.

**Турцыя.** У момант напружанай палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў сваёй краіне прэзідэнт Кыргыстана А. Атамбаеў з-за боляў у сэрцы спыніў тут палёт з Бішкека ў ЗША.

**Расія.** Пісьменнік У. Вайновіч заявіў, што Пуцін не можа дапусціць паспяховага развіцця Украіны і таму працягвае вайну ў Данбасе, многія рускія сталі асуджаць захоп Крыма.

**ЗША.** Ніжняя палата Кангрэса аднагалосна зацвердзіла пастаўкі Украіне сучаснай зброі, захавала санкцыі супраць Расіі, пацвердзіла адмову ЗША ад прызнання анексіі Крыма.

**Ізраіль.** Група вучоных краіны і ЗША з дапамогай сучасных 3D-тэхналогій і рэнтгену расшыфравала знойдзены ў 1970 годзе старажытны біблейскі манускрыпт.

**Англія.** У прыгарадзе Лідса адкрыўся адзін з першых у свеце супермаркетаў таннага харчавання для бедных, прадаюць ежу, ад якой адмовіліся іншыя гандлёвыя цэнтры.

**Пуэрта-Рыка.** Пасля пажару на галаўной падстанцыі і пашкоджання дзвюх магістральных ЛЭП 1,5 млн. чалавек, амаль палова насельніцтва краіны засталіся без электрычнасці.

**ЗША.** Сусветна вядомая актрыса А. Джолі падала на развод са сваім мужам, зоркай Галівуда Б. Пітам з-за рознагалоссяў метадамі выхавання 6 дзяцей іх бацькам.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## Мінімальная заработная плата за верасень індэксуецца на 5,4%



■Кар. БЕЛТА

**Памер месячнай мінімальнай заработнай платы (МЗП) за верасень бягучага года індэксуецца, як і ў папярэднім месяцы, на 5,4%.**

Гэта абумоўлена тым, што індэкс спажывецкіх цэн за верасень не перавысіў пяціпрацэнтны парог да месяца яе папярэдняй індэксацыі (чэрвень 2016 года), паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны. З 1 студзеня бягучага года месячная мінімальная заработная плата ўстаноўлена ўрадам у памеры Br2 млн 300 тыс. (недамінаваных). З улікам індэксацыі памер МЗП за верасень гэтага года склаў Br239,48. МЗП - дзяржаўны мінімальны сацыяльны стандарт у галіне аплаты працы, які наймальнік абавязаны прымяняць у якасці ніжэйшай мяжы аплаты працы работнікаў за працу ў нармальных умовах на працягу нармальнай працягласці працоўнага часу пры выкананні абавязкаў работніка, лакальных нарматыўных прававых актаў і працоўнага дагавора. Грашовыя даходы (заработная плата, дзяржаўныя стыпендыі навучэнцам, стыпендыі клінічным ардынатарам, стыпендыі работнікам, накіраваным на павышэнне кваліфікацыі, перападрыхтоўку, стажыроўку ў вочнай (дзённай) форме навучання ў іншы населены пункт), якія атрымліваюцца з бюджэтных крыніц, і заработная плата дзяржаўных служачых і прыраўнаваных да іх асоб, грашовае забеспячэнне ваеннаслужачых, асоб радавога і начальніцкага складу, грашовае забеспячэнне ваеннаслужачых тэрміновай ваеннай службы, суворацаў, выхаванцаў воінскіх часцей, курсантаў ваенных навучальных устаноў за верасень не індэксуюцца, так як індэкс спажывецкіх коштаў не перавысіў пяціпрацэнтны парог да месяца іх папярэдняй індэксацыі (красавік 2016 года). Устаноўленыя ад базавай велічыні дапамогі па беспрацоўі і стыпендыі грамадзянам у перыяд прафесійнай падрыхтоўкі, перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі па накіраванні органа па працы, занятасці і сацыяльнай абароне гарадскога, раённага выканаўчага камітэта індэксуюцца на 5,4%, паколькі індэкс спажывецкіх цэн за верасень не перавысіў пяціпрацэнтны парог да месяца іх папярэдняй індэксацыі (чэрвень 2016 года). Насельніцтву, якое атрымлівае даходы на тэрыторыі Беларусі з іншых крыніц, кампенсацыя страт ад інфляцыі ажыццяўляецца па падставах, прадугледжаных калектыўнымі дагаворамі (пагадненнямі). Для даведкі: грашовыя даходы насельніцтва за верасень, якія падлягаюць індэксацыі ў парадку, устаноўленым заканадаўствам, індэксуюцца ў межах Br175,50 (100% бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва, які дзейнічае на момант індэксацыі). Гэта прадугледжана Указам ад 28 студзеня 2006 года №55 «Аб нарматыве індэксацыі грашовых даходаў насельніцтва з улікам інфляцыі»

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Вядомы эканаміст Л. Заіка пацвердзіў, што цэны на расійскі газ для Беларусі моцна завышаныя і несправядлівыя, Крэмль павінен нам саступіць у гэтай спрэчцы.

**Баранавічы.** Расія зноў забараніла пастаўкі мясапрадуктаў з мясцовай птушкафабрыкі "Дружба", адной з буйнейшых у Беларусі, штогод яна выпускае 25 тысяч тон бройлераў.

**Абчак.** Па дагавору з амерыканскай карпарацыяй General Motors беларуская кампанія "Юнісон" на яе аўтамабільным заводзе ў Санкт-Пецярбургу пачне выпуск аўтамабіляў класа люкс.

**Мінск.** ААТ "МАЗ" пачаў пошук замежных стратэгічных інвестараў у Еўропе, Кітаі, вядзе перамовы аб супрацоўніцтве, але не ўваходжанні ў структуру расійскага КАМАЗа.

**Барысаў.** На новым заводзе па вытворчасці легкавых аўтамабіляў "Белджы" завяршылі будаўніцтва вытворчых карпусоў, але і заразаз цяжкасці са сбытам яго легкавушак.

**Мінск.** А. Лукашэнка прызнаў, што сітуацыя на многіх прадпрыемствах краіны складаная, таксама і ў сельскай гаспадарцы, на будаўніцтве, спад эканомікі працягваецца.

**Крычаў.** За нелегальны гандаль селядцом без дакументаў побач з цэнтральным рынкам суд зноў пакараў 64-гадовую пенсіянерку штрафам у суме 21 млн. старых рублёў.

**Брэст.** Дэпутат парламента двух скліканняў ад Брэста Л. Багдановіч прызналася, што многія яе іншагароднія калегі скарысталіся правам пабудаваць жыллё ў сталіцы.

**Мінск.** Прафесар Б. Жэліба заявіў, што ў праекце дзяржбюджэту-2017 зноў завышаныя расходы на дзяржапарат, але зменшыліся выдаткі на сацсферу і на адукацыю.

**Стаўбцы.** Пасля скандалу ў кафэ АЗС журналіст Глеб Лабадзенка высветліў у Міністэрстве інфармацыі, што тэлеканал "Россия-24" нельга транслiраваць у Беларусі.

**Мінск.** НПЦ па біярэсурсах НАН Беларусі накіраваў сваіх спецыялістаў на 3 вадаёмы краіны, каб высветліць прычыны масавай гібелі ракаў з-за іх чумы альбо экалогіі.

**Мазыр.** Упершыню ў Беларусі мясцовага жыхара Д. Шчарбатых пакаралі штрафам 4 базавых велічынь за неадназовае публічнае зневажанне роднай беларускай мовы.

**Слонім.** А. Лукашэнка запатрабаваў ад улад вобласці ў кароткі тэрмін завяршыць рэканструкцыю Жыровіцкага св. Успенскага манастыра, якая ідзе ўжо 30 гадоў.

**Мінск.** Газета "Народная воля" надрукавала вялікую сатырычную паэму "Даў заданне Правадыр напісаць "Войну и мир" пра нораву ў праўладным Саюзе пісьменнікаў.

**Гомель.** Пасля перапынку ўлады дазволілі канцэрт у Лядовым палацы на 5 тысяч месцаў раней забароненай групы С. Міхалка "Brutto", які разам з сям'ёй пераехаў жыць ва Украіну.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** Кампанія "Транснафта" пацвердзіла, што ў 4-м квартале пастаўкі расійскай нафты на "Нафтан" і Мазырскі НПЗ знізяцца ў 2 разы, да 3-х млн. тон, гэта ўдар па НПЗ.

**Віцебск.** На пазачарговай сесіі аблсавета дэпутатаў зноў скарацілі расходную частку бюджэту вобласці з-за малых паступленняў даходаў, эканамічных цяжкасцей у вытворцаў.

**Полацк.** На мясцовым ААТ "Шкловалакно" запусцілі ў эксплуатацыю новую сучасную печ для варкі шкла, вытворчыя магутнасці завода павялічыліся адразу на чвэрць.

**Паставы.** З рабочай паездкай наведаў раён першы віцэ-прэм'ер урада РБ В. Мацюшэўскі, правёў нараду па фінансавым аздараўленні неплацежаздольных гаспадарак вобласці.

**Верхнядзвінск.** З-за рэзкага зніжэння паступаючых перастаў самастойна дзейнічаць Боркавіцкі прафліцэй, а таксама – станкаінструментальны каледж у Віцебску.

**Віцебск.** На палігоне паблізу горада на вучэннях з-за парушэнняў тэхнікі бяспекі быў смяртэльна зацінуты БМП 19-гадовы салдат з Полацка, другі загінуў на Гродзеншчыне.

**Лынтупы.** Паблізу граніцы з Літвой пагранічнікі АПС "Паставы" за тры разы затрымалі 28 грамадзян В'етнама і іншых дзяржаў Азіі, якія нелегальна хацелі патрапіць у ЕС.

**Ушачы.** На абноўленым мемарыяльным комплексе "Прарыў" побач з аўтастаянкай адкрылі прыгожую металічную альтанку для адпачынку турыстаў коштам 7 млн. рублёў.

**Докшыцы.** У кінаканцэртнай зале "Іскра" прайшлі ўрачыстасці з нагоды 80-годдзя Бягомльскага лясгаса, які ўваходзіць у пяцёрку лепшых у Беларусі, ушанавалі ветэранаў.

**Браслаў.** На прыпынку ля мясцовага філіяла Глыбоцкага МКК загарэўся мікрааўтобус "WV-Транспарцёр", пажарныя патушылі ўзгаранне з дапамогай спецыяльнай пены.

**Наваполацк.** У гандлёвым цэнтры "Пралеска" адкрылася новае кафэ DoEAT, сродкі на яго ў суме 20 тысяч долараў сабралі 14 прадпрымальных маладых людзей.

**Мёры.** Пасля наезду ў райцэнтры на прахожага ДАІ за месяц выявіла на дарогах раёна 12 веласіпедыстаў і пешаходаў на надпітку, затрымалі 9 п'яных кіроўцаў і 10 – без правоў.

**Глыбокае.** На трох пляцоўках выступіў з канцэртам у Латвіі ў горадзе-пабрацiме Віляны, вёсках Дэкшарэс і Струплі народны ансамбль народнай песні "Крынічанька".

**Віцебск.** На працягу тыдня ў царкве св. Троіцкага Маркава мужчынскага манастыра знаходзіўся прывезены з Оршы цудатворны абраз Маці Божай, яе копіі ў многіх храмах.

**Верхнядзвінск.** Да гурта кароў адной з гаспадарак раёна ля граніцы з Латвіяй прыбіўся малады зубр-самец, у ваколіцах ужо свабодна гуляюць каля сотні гэтых жывёл.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Векавая чарэшня ў Празароках будзе ўзятая на ўлік векавых дрэваў і насаджэнняў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь

■ Уладзімір Скрабатун

**Больш за месяц таму, а менавіта 21 жніўня, аўтар гэтых радкоў наведаў Празарокі з нагоды святкавання 155 угодкаў ад нараджэння заснавальніка беларускага прафесійнага тэатра Ігната Буйніцкага. Прыехаў загадзя, таму быў вольны час, каб паблукаць па Празароках. Аўтар знайшоў адну цікавостку, аб якой і не падазравалі тубыльцы!**



Ля дома па вуліцы Полацкая, 13 расце вялікае дрэва. Была б бяроза ці ясень – прайшоў бы міма. Ужо колькі падобных гігантаў з такіх дрэваў бачыў, асабліва ў колішніх панскіх парках. Але гэтае дрэва, што ў Празароках, прыцягнула ўвагу не толькі таўшчынёй ствала, а, перадусім, сваёй лістотай. Няўжо чарэшня! Лістоту вішні і чарэшні садавод-аматар ніяк не зблытае! Расце чарэшня і ў аўтара гэтых радкоў. Яны, хоць і дрэвы сваякі, але лістота моцна адрозніваецца. У чарэшні лістота ці не ў два разы даўжэйшая, чым у вішні, а па шырыні лістота чарэшні роўная даўжыні ліста вішні. І лісце ў чарэшні светла-зялёнае, у вішні – цёмна-зялёнае.

Так! Гэта чарэшня! А ствол жа які "тоўсты"! Ашалець!

Прыгадалася, што і сёння ў вёсцы Барыскавічы, насупраць колішняга сядзібнага дома пана Дабашынскага, растуць такія ж вялікія чарэшні, праўда, ствалы на палову вузейшыя. Гэтыя чарэшні, што ў Барыскавічах, бачныя на здымках дома за 1905 год. Там ім гадоў 5-7 ад роду. Нядаўна пасаджаныя. Значыцца, барыскавічскім чарэшням сёння – сама меней - 120 гадоў! Які ж тады век гіганцкай празароцкай чарэшні? 130? А можа – 150?

Узнікае лагічнае пытанне: "Колькі гадоў, наогул, жыве чарэшня?" Аўтар паспрабаваў высветліць. Аднак нічога цікавага па гэтай тэме ў даведніках не знайшоў! Там раяць праз колькі дзесяцігоддзяў старую чарэшню ссякаць і садзіць новае дрэва.

Натуральна, мясцовы празароцкі люд на гэтую чарэшню не звяртае ўвагі... Прызвычаіўся. Расце – няхай расце. Гэтак сама, як у Глыбокім аўтобусы прыбываюць і адпраўляюцца з ... могілак! Ніхто з глыбачанаў на гэта не звяртае ўвагі, а вось госці горада не пакідаюць магчымасці дзенебудзь, на нейкім інтэрнэтфоруме, ушчыкнуць Глыбокае, маўляў – маўчыце, у вас аўтобусы прыбываюць на могілкі!

– А калі зафатаграфаваць гэтую гіганцкую чарэшню і фоты паслаць у Мінпрыроды?– адразу узнікла такое жаданне. – А раптам дрэва, насамрэч, унікальнае? А празароцкі люд аб гэтым і не падазрае!

Паслаў! Чакаў тыдзень, спраўджваў электронную пошту. Няма! – Нічога гэтае дрэва не вартае!– падумалася. – Там цябе яшчэ і за вар'ята палічылі.

Прайшло паўтара месяца... Аказваецца, Віцебскі абласны камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя даручыў Глыбоцкай раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя вывучыць пытанне з празароцкай чарэшняй, што вынікае з ліста, які атрымаў аўтар:

### Аб разглядзе звароту

Віцебскі абласны камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя разгледзеў Ваш зварот аб чарэшні ў в. Празарокі Глыбоцкага раёна і паведамляе наступнае.

Глыбоцкай раённай інспекцыяй прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя было ўстаноўлена, што дрэва расце каля дома па адрасе: Глыбоцкі раён, в.Празарокі, вул. Полацкая, 13. Плошча вырастання – 0,25 га. Абхват ствала складае 176 см.

Землекарыстальнікам участка з'яўляецца ДЛГУ «Дзісненскі лясгас».

Матэрыялы па дадзеным дрэве накіраваны ў сектар маніторынгу раслiннага свету Інстытута эксперыментальнай батанікі імя В.Ф. Купрэвіча Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі для інвентарызацыі і ўліку векавых дрэваў і насаджэнняў на тэрыторыі Беларусі.

*П.В.Дук, намеснік старшыні.*

На будучы год у Глыбокім–юбілейны, пяты Вішнёвы фестываль, мо з гэтай нагоды нешта і Празарокам перападзе! Напрыклад, прыезд нейкага вакальнага гурта. Празароцкая чарэшня таго вартая!



Гіганцкая чарэшня ў Празароках, якая памятае Ігната Буйніцкага.

**Вакзал у Загацці збудаваны ў 1904-06 гадах па тыповым для чыгункі Полацк - Седльцэ праекце. Стаіць і зараз, але Беларуская Чыгунка сёлета ўзялася яго рамантаваць. Гэты рамонт не абышоўся без стратаў для яго гістарычнага выгляду.**

# Як станцыя Загацце была памежнай

*Адразу за станцыяй Загацце праходзіла польска-савецкая мяжа.*

■ Кастусь Шыталь, *краязнаўца*

На першым плане звяртае на сябе ўвагу чатырохніткавы шлях, прыстасаваны да цягнікоў і еўрапейскай, і расейскай каляіны. Адразу за станцыяй была савецкая мяжа, Загацце было памежнай станцыяй.

У 1926 годзе станцыя Загацце была прыстасаваная для памежнага руху цягнікоў. Праз Загацце з Польшчы ў СССР везлі сілезскі вугаль ды прадуцыю цяжкай прамысловасці. Газета "Kurjer Wileński" №191 за 20 жніўня 1926 года паведамляе, што кожны дзень праз Загацце праходзіла да 120 вагонаў вугалю.

У наступныя гады моцна змянілася структура гаспадаркі СССР і гандаль з Польшчай паменшаў. Грузавы рух праз Загацце зменшыўся, але яшчэ ў канцы 1930-х гадоў перавозкі ў невялікім аб'ёме адбываліся.

У чыгуначных раскладах былі прадугледжаныя і пасажырскія цягнікі Загацце - Фарынава, аднак у рэальнасці яны хадзілі надзвычай рэдка, "пры наяўнасці пасажыраў", якіх было вельмі мала.




Станцыя Загацце (Zahacie). На пярэднім плане бачны чатырохніткавы шлях, прыстасаваны да цягнікоў і еўрапейскай, і расейскай каляіны. *Фота zbiory.mhf.krakow.pl*

# На аграсядзібах забаранілі размяшчаць больш за 20 чалавек

*Гатовая новая рэдакцыя ўказу па аграэкатурызму*

**Развіццё аграэкатурызму ў апошнія гады перажывала ў Беларусі сапраўдны бум, але зараз «правілы гульні» стануць цвярдзей.**

Намеснік міністра спорту і турызму Міхаіл Партной распавёў, што прынцыпова новага прапісана ў новым указе.

**Па-першае,** прапануецца ўвесці выразнае абмежаванне колькасці пакояў жылога дома, прызначанага для аказання паслуг аграэкатурызму, а таксама колькасці адначасова размешчаных турыстаў. Пры аказанні паслуг у сферы аграэкатурызму з выкарыстаннем больш за 10 жылых пакояў або больш за 20 чалавек адначасова гэта дзейнасць будзе прызнавацца прадпрымальніцкай і падлягаць падаткаабкладанню ва ўсталяваным парадку.

Праўда, па словах Міхаіла Партнога, дасягнутая дамоўленасць, што гэта правіла не будзе датычыць тэматычных экскурсійных тураў або правядзення падзейных турыстычных мерапрыемстваў.

**Другім** ключавым момантам праекта ўказу з'яўляецца замацаванне выразнага пераліку паслуг у сферы аграэкатурызму, які выключае правядзенне вяселляў, карпаратываў і іншых урачыстых мерапрыемстваў, арганізацыя якіх не адпавядае панаццю аграэкатурызму.

**Яшчэ адно** новаўвядзенне – пераход з заяўнічага на дазваленчы прынцып стварэння аграэкасядзіб. Гэта значыць прадугледжваецца неабходнасць атрымання дазволу ў мясцовым выканкаме.

*«Што да аднаго з самых хвалюючых пытанняў па падаткаабкладанні, то яно застанецца без зменаў. Суб'екты аграэкатурызму будуць пакуль па-ранейшаму выплачваць адну базавую велічыню ў год»,* – запэўніў намеснік міністра.



# Люцыян Шчасны: Я ў сваіх вершах толькі выказаў людскія думкі

**Паэт Люцыян Шчасны з вёскі Хрыстова Пастаўскага раёна нядаўна адзначыў свой Дзень нараджэння. 1 кастрычніка яму споўнілася 74 гады. І хаця ў яго за плячыма толькі сямігодка, пагутарыць з гэтым чалавекам заўсёды вельмі цікава.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*



**– Вы пражылі ўжо больш за семдзесят гадоў, а што найбольш помніцца?**

– Ну што тут успомніш? Памятаю гэту калгасную катаргу, як на працу чуць не колам гналі. І адбілі ахвоту да працы, бо не быў чалавек зацікаўлены, каб добра працаваць.

Памятаю, як калгасы стваралі. Ток у нас забралі. Маці галосіць: "Ідзі, сынок, прасі, каб не разбіралі". А мне сем год толькі, закрычалі на мяне, я заплакаў і ўцёк у вёску.

Голад памятаю. Шчаўе елі, буракі, бацвінне поснае… Аж глядзець ужо на яго не хацелася.

**– А шмат хто кажа, парадак быў пры Сталіну?**

– Дурны парадак быў. Людзі за дарма рабілі. І людзей нізашто крыўдзілі. Сірот, удоў, таму і не магла такая дзяржава доўга праіснаваць, бо пабудавана была на несправядлівасці.

Я памятаю, як у нас мужыка аднаго забралі з вёскі. Забралі толькі за тое, што ваяваў супраць немцаў у арміі Андэрса, удзельнічаў у бітве пад Монтэ-Касіна. Далі яму за гэта восем гадоў Сібіры. Вось такая дурната была. Але за што чалавека пасадзілі?

Я пасля ўжо ў яго пытаўся: дык за што цябе пасадзілі? Ён кажа: "А я і сам не ведаю".

**– А яшчэ што распавядаў пра свой удзел у бітве?**

– Шмат чаго расказваў. Казаў, што доўга не маглі ўзяць гэту крэпасць. Розныя людзі штурмавалі яе, запомніліся шатландцы ў спадніцах.

**Доўга не маглі ўзяць гэту крэпасць. Розныя людзі штурмавалі яе, запомніліся шатландцы ў спадніцах.**

Пойдуць людзі на штурм, а назад ніхто не вяртаецца. Толькі вецер як павее з гары, то чуем смурод ад трупаў. Успамінаў, як цэлую ноч страляў з гарматы па немцах, за гэта нават узнагароду атрымаў.

А яшчэ ўспамінаў, што віно ў Італіі добрае было. Аднойчы прыкацілі цэлую бочку, літраў на трыста. І палез, кажа, я за чарговай порцыяй віна, а яно ўжо ў дне было. І сарваўся ў бочку, і чуць там не згінуў. Дык камандзір тады сказаў: "Шмат ты потым забудзеш пра вайну, а вось той выпадак, як чуць не патануў у бочцы з віном, будзеш памятаць усё жыццё". І памятаў!

Дык у мяне яшчэ раз такое пытанне, за што чалавека пасадзілі, ваяваў жа таксама супраць немцаў. Шмат узнагародаў меў, але згарэлі яны пасля падчас пажару.

І вось напісалі яму дзеці на магіле, што пахаваны тут такі і такі, і на рускай мове. А трэба было напісаць, што тут пахаваны патрыёт Беларусі, герой вайны і ахвяра сталінскіх рэпрэсій.

Вось такое было жыццё.

Таму так вам скажу, нявольны чалавек шчаслівым быць не можа. Толькі ж калі вочы гарэлкай зальеш, вось тады і шчасце, а потым працверазееш і няма яго, таго шчасця.

**І напісалі яму дзеці на магіле, што пахаваны тут такі і такі, і на рускай мове. А трэба было напісаць –тут пахаваны патрыёт Беларусі, герой вайны і ахвяра сталінскіх рэпрэсій.**

**– Дык можа таму і зараз шмат хто так робіць?**

– Хто яго ведае, гэта распуста хіба. А гарэлка рэч небяспечная, як тая ж дэмакратыя. Калі ўсё ў меру, то добра, а як няма меры… Трэба каб ва ўсім мера была.

Цяпер шмат хто глядзіць, што недзе жывуць добра. Дык яны ж працуюць! А без працы нічога не атрымаецца.

Вось цікава, тады бальшавікі насіліся з гэтым сваім камунізмам. І ў Афрыку яго пёрлі, і ў Амерыку, дзе толькі магчыма. Дзе іх толькі чорт ні насіў!

А зараз з гэтай дэмакратыяй так атрымоўваецца. Ну не хоча народ пры ёй жыць, дык навошта яе навязваць? Ды й людзі і не разумеюць толкам, што гэта такое. Трэба гэта павольна рабіць. Бо свабода не заўсёды добрая рэч, можна і бяды нарабіць.

**– Але ж свабода гэта ж таксама і адказнасць вялікая, за сябе, за сям'ю, за краіну.**

– Гэта так. Але ж мы хочам быць свабоднымі, а адказнасці ніякай не хочам. Хай думае прэзідэнт, яшчэ якое начальства, а самі думаць не хочам.

**– Вось была такая вялікая дзяржава, Савецкі Саюз. А чаго яна тады развалілася?**

– Шмат сядзела людзей пры Саюзе. Там розныя людзі былі, і злачынцы, і не толькі…

І вось некаторыя з іх, каб не загінуць, уступілі ў партыю. І потым знішчылі і партыю, і Савецкі Саюз.

А каб неяк апраўдаць сваю дзейнасць, то сказалі, што сабраліся тры мужыкі ў Белавежскай пушчы і падпісалі на пні нейкую паперку. Ну, і вядома ж, раз сабраліся ў пушчы, то пілі гарэлку, і падпісалі п'яныя гэты дакумент. А назаўтра прачнуліся, а дзяржавы няма. Ну, гэта народу так тлумачаць.

**– То можа дзяржава слабая была, раз так лёгка распалася?**

– Слабай не назавеш яе, больш за дзесяць мільёнаў пад ружжом было, такую зброю мелі, шмат боегаловак ядзерных. Развалілі яе тыя людзі, што займалі вялікія пасады.

Рэйган некалі назваў Савецкі Саюз імперыяй зла. Ну, няма зараз Саюза, а зла не паменела ж на Зямлі. Яго і не паболела, відаць, гэта велічыня пастаянная.

**– А чаму на вашу думку калгасы развальваюцца?**

– Ну, сагналі людзей у калгасы, потым аб'ядноўвалі іх некалькі разоў, а потым мясцовая так званая эліта разграбіла іх. І зараз вёскі паміраюць. Бо няма тут ні працы, нічога…

Вось кажуць гіне вёска, гэта такі працэс натуральны. А я думаю, што гэта праграма адмысловая такая ёсць па знішчэнні вёсак. Каб аддаць палі, лясы новым гаспадарам ці панам новым. Дык за што тады людзі гінулі на барыкадах?!

Была царская няволя, потым бальшавіцкае рабства, а цяпер будзе панскае. Я вось тут не разумею, што тут адбываецца.

**– Адкуль тыя паны возьмуцца?**

– Будуць яшчэ, а як жа.

**– Вось вы сцвярджаеце, што вёска – гэта маральнасць, а горад – гэта распуста. А шмат хто лічыць, што зараз якраз наадварот.**

– Што ўжо ў вёсцы засталіся адны нікчымныя людзі? Я вам так скажу, як грабілі гэты калгас, я пытаўся гэтых рабаўнікоў, што ж вы робіце, тут жа і маё нешта ёсць?! А яны мне кажуць, мы не грабім, мы сваё забіраем. Бо і нас жа раскулачвалі, зямлю забралі. А я кажу, дык і маё ж забралі. А яны мне, а хто табе не даваў браць?

**Грабілі гэты калгас! Я пытаўся: Што ж вы робіце, тут жа і маё нешта ёсць?! А яны мне кажуць, мы не грабім, мы сваё забіраем.**

А мяне ж з маленства вучылі і маці, і ксёндз нічога чужога не браць. Вось я гэтага і прытрымліваўся. А той чалавек мне кажа: "Ну калі ты дурны, то жыві так і далей. Дык вось гэта ж і ёсць мараль.

А як чалавек абы-што, дык ён ці ў вёсцы, ці ў горадзе будзе абы-што.

І хто тут у вёсцы застаўся ўжо, амаль адны пенсіянеры. Блытаюцца пад нагамі, толькі для дзяржавы лішні клопат, пенсіі трэба выплочваць.

Разбэсціўся зараз народ гэтай дэмакратыяй, не ведае ўжо што і рабіць..

**– Хіба яна ёсць у нас, гэта дэмакратыя?**

– Ну чаму, паглядзіце, мы ж з вамі размаўляем пра што хочам, і пакуль што нас па этапе не вязуць.

Я разумею, што дэмакратыя добрая штука, але ж не кожны яе разумее, так як належыць. Шмат хто гэта разумее як свабоду красці, рабаваць.

Але ж я, як пражыў яшчэ пры тым часе, то магу сказаць, што зараз лягчэй дыхаецца, можна нешта і сказаць, і напісаць.

**– Як справы з паэзіяй, любіць народ вершы?**

– У вёсцы ўжо няма каму ні пісаць, ні чытаць. А ў гарадах пішуць, і, ведаеце, добра пішуць, толькі нікому зараз гэтыя вершы не трэба. А пішуць добра, парой аж зайздрасць бярэ. Так і хочацца сказаць словамі Астапа Бэндэра "Хорошо излагают, собаки".

**– А вы самі пішыце яшчэ?**

– Пішу, бывае. Але зараз не асабліва атрымліваецца пісаць, жонка хворая, ды і самога здароўе часам падводзіць. Але ж не ўсё я яшчэ сказаў і не ўсё напісаў.

А хочаце скажу вам, чаму вершы мае спадабаліся людзям? Я ж не распавёў у іх нічога новага, ды і самі вершы можа недасканалыя. Але я выказаў у іх тое, пра што думалі многія, але баяліся сказаць. Я ж у сваіх вершах толькі выказаў людскія думкі.

**– Што б хацелі маладым людзям параіць?**

– Хай вучацца дабро ад зла адрозніваць. Трэба працаваць, менш глядзець у наўтбукі і тэлефоны, бо там нічога талковага няма. Канешне, для якой справы яны неабходныя, але не абы-што глядзець.

**– То трэба яшчэ чакаць вашых новых вершаў?**

– Вядома ж. Мы яшчэ паваюем. Думаю вясной можа пра новы зборнік можна падумаць.

**– Жадаем вам моцнага здароўя і чакаем новых вершаў.**

***

*Прапануем чытачам два вершы Люцыяна Шчаснага з яго апошняга зборніка, які так і называецца "Апошняе слова".*

***

Ніхто ў небе зоркі не палічыць,
А на зямельцы дурасці людской.
Туды заўжды нас будучыні клічуць,
Дзе нас чакае вечны супакой.

Мяне не вабіць вечнасць незямная
Й жыццё ў райскім веку залатым.
І, можа, я калі сканаю –
Усё маё закончыцца на тым.

Сябе мы так стараемся знявечыць,
Што не патрэбны Богу, ні чарцям.
Бог дасканаласць можа ўвекавечыць,
Хаця аб гэтым многім і неўцям.

І не патрэбны нашыя брыдосці
Нябеснай дасканаласці на міг,
Таму ў зямлі сатлеюць нашы косці,
А нашы душы – у далях незямных.

***

Запаўняе вечар
Мне душу жудою,
Боль не заціхае
Ў касцях старых.
І туман бялее
Пенай сырадою
На лугах шырокіх,
Па лугах сырых.
Пазнікалі хмаркі
Ўсе за небасхілы,
І на небе нехта
Запаліў агні.
У цішы пагоста
Родныя магілы,
І на тых магілах
Дрэмлюць камяні.
Надпісы чытае
Месяц яснатвары
На святых каменнях
Моўчкі, пра сябе,
А ў далі чарнеюць
Змрочныя імшары,
І сава скуголіць
На старой вярбе.

# Здаровы сон ці спакой днём і ноччу



**Добры сон – гэта адна з прыкмет здароўя чалавека. Сон з'яўляецца такой жа базавай патрэбай як паветра, вада ці ежа.**

■ **Д. Шыльчонак,** *фельчар-валеолаг*

Дрэнны сон спрыяе павелічэнню вагі і зніжае імунітэт, паніжае працаздольнасць і абвастрае хранічныя захворванні. Эксперыменты паказваюць, што ў падыспытных людзей, якіх на працягу некалькіх дзён трымалі без сну, у арганізме развіваюцца працэсы, падобныя з працэсамі паскоранага старэння.

Якім жа павінен быць здаровы сон? Медыкі лічаць, што даросламу чалавеку неабходна 7-8 гадзін сну, каб адпачыць і бадзёра адчуваць сябе на працягу дня. Для нармальнага начнога сну цалкам дастаткова 5-6 гадзін. Аднак у большай меры мае значэнне нават не працягласць сну, а яго якасць.

Недасыпанне аказвае негатыўны ўплыў на працу сардэчна-сасудзістай сістэмы. Пры дэфіцыце сну аслабляюцца ахоўныя сілы арганізма, чалавек часцей падвяргаецца розным інфекцыйным захворванням. Пры гэтым адбываецца памяншэнне метабалізму глюкозы на 40 адсоткаў, а гэта значыць, што ў людзей, якія маюць праблемы са сном, павышаецца рызыка ўзнікнення цукровага дыябету. Парушаецца гарманальны фон: колькасць гармона стрэсу (кортызола) павялічваецца, а ўзровень гармону росту зніжаецца, што прыводзіць да агульнага пагаршэння стану здароўя і заўчаснага старэння.

Немалаважнай умовай паўнавартаснага начнога адпачынку з'яўляецца гігіена сну.

**Знешняя абстаноўка для забеспячэння гігіены сну:**

■ спальнае памяшканне павінна быць чыстым, рэгулярна рабіце вільготную ўборку і працірайце пыл;

■ перад сном неабходна праветрываць спальнае памяшканне; свежае паветра спрыяе хуткаму засынанню, добраму сну і прыемнаму абуджэнню;

■ пасцельная бялізна павінна быць чыстай і змянягца не радзей за адзін раз у тыдзень;

■ зручнае спальнае месца (не занадта мяккае і не занадта жорсткае) таксама дапамагае атрымаць паўнавартасны адпачынак за час сну;

■ перад сном неабходна выключыць усе крыніцы святла і гуку.

**Фізічны і псіхалагічны стан:**

● каб сон быў здаровым неабходна выконваць рэжым - класціся і ўставаць у адзін і той жа час;

● не варта перад сном займацца спортам ці прымаць загартоўвальныя працэдуры; пасля гэтых мерапрыемстваў павінна прайсці не менш за дзве гадзіны (а вось прагулка на свежым паветры перад сном пойдзе толькі на карысць);

● прымаць ежу перад сном не рэкамендуецца; але калі вельмі хочацца, то можна спажыць лёгкую ежу, напрыклад яблык ці шклянку кефіру;

● чай, кава, алкагольныя напоі перад сном могуць стаць прычынай цяжкасцяў з засынаннем; як напой перад сном падыходзіць толькі травяны чай ці малако з мёдам;

● Важнае значэнне для сну мае ўменне чалавека перад сном расслабіцца і адкласці перажыванні, абдумванне і рашэнне праблем на заўтрашні дзень; дасягнуць псіхалагічнай раўнавагі дапамогуць чытанне класічнай літаратуры, лёгкі масаж, ароматэрапія і праслухоўванне ціхай музыкі (гукі прыроды, калыханкі);

● перад сном пажадана прыняць цёплы душ або ванну (не гарачую).

Невыкананне правілаў гігіены сну не толькі замінае паўнавартаснаму адпачынку, але і спрыяе развіццю разнастайных хвароб.

***

**Такім чынам, рэгулярны клопат аб здаровым сне павінны ўключаць у сябе паўнавартаснае харчаванне з вялікім утрыманнем біялагічна актыўных мікраэлементаў, штодзённыя фізічныя нагрузкі, а таксама ўсе неабходныя ўмовы для спрыяльнага засынання.**

# "Моладзь за бяспеку!"

**Роўна 15 гадоў таму ў кастрычніку 2001 года ўзнікла новая рэспубліканская грамадская арганізацыя БМГАВП (беларуская маладзёжная грамадская арганізацыя выратавальнікаў-пажарных), сябрамі якой з'яўляюцца маладыя актыўныя людзі, якія выступаюць за бяспеку.**

■ **Алег Салодкі,** *інспектар групы прапаганды і ўзаемадзеяння з грамадскасцю*

Стварэнне дадзенай арганізацыі накіравана на грамадзянскае і патрыятычнае выхаванне, навучанне бяспецы жыццядзейнасці падрастаючага пакалення, развіццё спорту і турызму, абарону людзей і навакольнага асяроддзя ад надзвычайных сітуацый прыроднага і тэхнагеннага характару, адраджэнне беларускай культуры.

Цяпер, штогод, у кастрычніку пад эгідай МНС і БМГАВП праводзіцца рэспубліканская акцыя "Моладзь за бяспеку", у рамках, якой актывісты арганізацыі аказваюць шэфскую дабрачынную дапамогу пажылым людзям, таксама наведваюць установы адукацыі, дзе распавядаюць пра бяспечныя паводзіны.

Ну, а завяршыць правядзенне акцыі плануецца тэматычнай дыскатэкай, на якую могуць прыйсці ўсе жадаючыя!

## МНС інфармуе

**на 11.10.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 524;
Гібель людзей – 49, з іх 1 дзіця;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 17;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

# Электрабяспека пры эксплуатацыі асвятляльных прылад

**Асвятляльныя электрапрыборы як спажыўцы электрычнай энергіі таксама нясуць у сабе электранебяспеку.**

■ **А. Сіўко,** *дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе*



Непасрэдны кантакт чалавека са свяцільнікамі ў працэсе эксплуатацыі адсутнічае (за выключэннем замены перагарэўшых лямпаў), таму стварaецца ілжывае ўражанне, што асвятляльныя прылады не ўяўляюць небяспекі для чалавека. Але пры незахаванні простых правілаў электрабяспекі, нават асвятляльныя прылады могуць быць крыніцай паражэння электрычным токам. Разгледзім некалькі правілаў, якія варта выконваць для захавання бяспекі пры эксплуатацыі асвятляльных прыбораў.

Перш за ўсё, варта адзначыць, што свяцільнікі і выключальнікі асвятлення павінны выбірацца з улікам асаблівасцяў асяроддзя, дзе яны будуць устаноўлены. Калі гэта ванны пакой, то неабходна выбраць свяцільнік і выключальнік, якія маюць дастатковую абарону ад вільгаці і пырскаў вады. У дадзеным выпадку эксплуатацыя свяцільнікаў і выключальнікаў асвятлення, якія не маюць дастатковай абароны ад вільгаці, цягне за сабой небяспеку паражэння электрычным токам.

Што тычыцца выключальнікаў асвятлення, якія не маюць абароны ад вільгаці, то пры выкананні аперацый з імі, рукі павінны быць сухімі. Вельмі часта ў працэсе выканання хатніх работ святло ў пакоі ўключаецца мокрай рукой. Пры патрапленні вільгаці на кантактную частку выключальніка высокая верагоднасць удару электрычным токам.

Асобна варта разглядзець правілы бяспекі пры замене перагарэўшых лямпаў ў свяцільніку. Асноўнае правіла – гэта абясточанасць свяцільніка. Як правіла, выключальнік асвятлення адключае фазны провад асвятлення. Гэта значыць, па сутнасці, для абясточанасці свяцільніка досыць адключыць адпаведны выключальнік асвятлення. Але, таксама існуе верагоднасць, што пры выкананні падключэння асвятлення была дапушчана памылка і на разрыў у выключальніку ідзе нулявы провад, а фазны провад падыходзіць да свяцільніка.

Калі, да прыкладу, пашкодзіцца лямпа напальвання і паўстане неабходнасць выкручвання цокаля, які застаўся ў патроне, чалавек можа патрапіць пад напружанне, так як фазны провад не быў адключаны. Таму перад тым, як праводзіць замену лямпы або ўстараняць дробныя няспраўнасці свяцільніка, неабходна пераканацца ў тым, што напружанне на свяцільніку (на элементах, на якіх магчыма наяўнасць напружання і да якіх магчымы дотык) адсутнічае.

Калі выключальнік асвятлення не разрывае фазны провад, то варта адключыць аўтаматычны выключальнік у размеркавальным шчытку, які ажыццяўляе сілкаванне ліній асвятлення. Пры яго адсутнасці абясточыць электраправодку цалкам. Памылку падключэння выключальніка асвятлення ў далейшым неабходна ў абавязковым парадку ліквідаваць.

## Дзень адкрытых дзвярэй ва "Універсітэце грамадзянскай абароны МНС Рэспублікі Беларусь"

У рамках рэалізацыі плана штогадовых мерапрыемстваў па прафесійнай арыентацыі моладзі і падбору кандыдатаў на паступленне **15 кастрычніка 2016 года ў 11 гадзін** у дзяржаўнай установе адукацыі "Універсітэт грамадзянскай абароны МНС Рэспублікі Беларусь" (г. Мінск, ул.Машынабудаўнікоў, 25) будзе праведзены **Дзень адкрытых дзвярэй**.

Пры правядзенні дадзенага мерапрыемства абітурыенты змогуць атрымаць інфармацыю на ўсе пытанні, якія тычацца правядзення ўступных экзаменаў, умоў навучання і пражывання, азнаёміцца з вучэбна-лабараторнай базай універсітэта.

**Тэлефон для даведак 2-70-89.**

